*РОЗГАЛАС*

## ЦІ БУДЗЕМ ЗІМОЙ З ВІТАМІНАМІ?

Сёлетняе лета, не ў прыклад мінулагодняму, расчаравала, напэўна, не столькі аматараў прымаць сонечныя ванны (без гэтага пражыць можна), колькі сялян і шматлікіх уладальнікаў дачных участкаў: неспрыяльнае надвор'е зводзіць на нішто ўсе намаганні нешта вырасціць і назапасіць на зіму з уласных сотак. Цалкам верагодна, што восенню большасць людзей (у першую чаргу гараджан) вымушана будзе звярнуцца па вітаміны ў крамы. Таму карэспандэнт «Звязды» пацікавіўся ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання прагнозамі на ўраджай агародніны.

Па словах спецыялістаў, у абласцях краіны пад гэтыя культуры сёлета адведзена 15,2 тыс. гектараў, што прыкладна на ўзроўні мінулагодняга. Практычна нязменнай засталася і структура пасеваў: капуста, буракі, морква, агуркі, таматы і іншае. Па прагнозах, ураджайнасць агародніны чакаецца на ўзроўні 180—190 цэнтнераў з гектара, што дазволіць сабраць у цэлым па краіне каля 1 млн. 100 тыс. тон вітаміннай прадукцыі, што крыху больш, чым было летась. Зыходзячы з гэтых лічбаў, ураджаю павінна хапіць і на патрэбы насельніцтву, і на прамперапрацоўку. Зразумела, пры ўмове, што вырашчанае будзе без страт сабрана і захавана.

## СЁЛЕТА БУДЗЕ НАРЫХТАВАНА КАРМОЎ НА 30 ПРАЦЭНТАЎ БОЛЬШ МІНУЛАГОДНЯГА

Усе шэсць абласцей краіны (з лідэрствам паўднёвых рыгіёнаў) пачалі другі ўкос шматгадовых сеяных і натуральных траў.

Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, па апошніх звестках у цэлым па Беларусі ўбрана ўжо 65 тысяч гектараў плошчаў траў, або 7 працэнтаў да задання (нагадаем: гэта на 20 тысяч гектараў больш мінулагодняга на гэты ж перыяд). Гаспадаркамі нарыхтавана з улікам першага ўкосу 2,1 млн. тон сена (68 працэнтаў да задання), 6,1 млн. тон сенажу (89 працэнтаў), 1,7 млн. тон сіласу (21 працэнт), 48,2 тыс. тон (54 працэнты да задання) травяной мукі і іншых абязводжаных зялёных кармоў. Усяго ў пераліку на кармавыя адзінкі ў цэлым па краіне нарыхтавана 3,1 млн. тон травяных кармоў, што складае 9,2 цэнтнера на адну ўмоўную галаву жывёлы (супраць 8,8 цэнтнера летась).

Як пракаменціравалі лічбы ў міністэрстве, сёлета на другі ўкос траў ускладаецца шмат надзей. Дастаткова сказаць, што гаспадаркам трэба будзе ўбраць 980 тысяч гектараў плошчаў, у той час як летась гэтая лічба з-за дрэннага надвор'я (спякота спаліла пасевы) не перавышала 300 тысяч гектараў. Добры ўраджай, значна большыя папярэдне падкормленыя плошчы сеяных шматгадовых траў, неблагія перспектывы на кармавыя буракі і кукурузу даюць падставу спецыялістам Мінсельгасхарча меркаваць, што сёлета па выніках года агульная валавая нарыхтоўка кармоў (з улікам збожжа і бульбы) будзе на 30 працэнтаў большая, чым летась.

## ВЁСКА ПАКУТУЕ АД ДАЎГОЎ

Акрамя клопатаў па сёлетняй уборачнай кампаніі працаўнікоў вёскі турбуе яшчэ адна глабальная праблема — разлікі перапрацоўчых прадпрыемстваў з гаспадаркамі за здадзеную і рэалізаваную яшчэ ў мінулым годзе прадукцыю. Так, толькі льнозаводу павінны калгасам і саўгасам аднаго Вілейскага раёна звыш 1,3 млрд. рублёў.

Зразумела, гэта выклікае справядлівыя нараканні вяскоўцаў, якія месяцамі не атрымліваюць грошай. Напрыклад, агульная запазычанасць ільнасеючым гаспадаркам Аршанскага льнозавода складае на сённяшні дзень каля 40 млрд. рублёў. І такія даўгі ёсць літаральна ў кожным раёне. Праблема пакрысе вырашаецца, але становішча па-ранейшаму застаецца цяжкім. Тычыцца гэта не толькі льнозаводаў, але і іншых перапрацоўчых прадпрыемстваў, мяса-малочных у прыватнасці. Так, па таму ж Вілейскаму раёну дэбіторская запазычанасць калгасам і саўгасам складае 6,2 млрд. рублёў, дзе «асабістая» доля даўгоў толькі мясцовага малзавода складае 4,5 млрд. рублёў гаспадаркам і 758 млн. рублёў за здадзеную прадукцыю — насельніцтву.

Мінскі мясакамбінат павінен толькі аднаму раёну 158 млн. рублёў, Маладзечанскі мясакамбінат — 263 млн. рублёў, Валожынскі льнозавод — 225 млн. рублёў і гэтак далей.

На думку спецыялістаў Мінсельгасхарча, вырашэнне гэтага пытання — першачарговая задача перапрацоўчых прадпрыемстваў. Зрэшты, не бязгрэшныя ў гэтым плане і самі гаспадаркі. Іх уласныя даўгі за электраэнергію, банкаўскія крэдыты і іншае перавышаюць дэбіторскую запазычанасць у 3-4 разы...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*...ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## СІТУАЦЫЯ Ў СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРЦЫ НЕ З ЛЕПШЫХ, АЛЕ ЗАРАЗ УСЁ Ж УДАЛОСЯ КРЫХУ СКАРАЦІЦЬ АДСТАВАННЕ

У другім квартале бягучага года, як паведаміў карэспандэнту «Звязды» загадчык сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь Іван Гурскі, у сельскай гаспадарцы ўдалося крыху скараціць адставанне тэмпаў вытворчасці валавога прадукту ў суадносінах да адпаведнага перыяду мінулага года (далей таксама лічбы даюцца ў параўнанні — **М. Л.**) — ён склаў 98 працэнтаў, а ў чэрвені адбыўся нават невялікі прырост на 0,2 працэнта. У першым паўгоддзі бягучага года скарацілася ўласная вытворчасць мяса ў гаспадарках — 79,1 працэнта, малака — 88,6 працэнта, масла — 81 працэнт. Вытворчасць цукру зменшылася ў 7,1 раза. Жывёлы і птушкі было выгадавана толькі 88 працэнтаў, надоена малака — 89 працэнтаў, прычым за першае паўгоддзе сярэдні надой на адну карову зменшыўся на 83 кілаграмы. На ўзроўні засталася вытворчасць яец — 103 працэнты, а сярэднесутачнае прыбаўленне ў вазе буйной рагатай жывёлы склала тры грамы. Колькасць жывёлы, наогул, працягвае скарачацца: кароў — 95 працэнтаў, свіней — 98 працэнтаў, коней — 96 працэнтаў. Закупкі ж дзяржавай жывёлы, птушкі і малака склалі 88 працэнтаў.

Абнадзейвае нарыхтоўка кармоў, якая вядзецца ў цэлым на ўзроўні мінулага года. Праблемы з палівам застаюцца: дызельнага маецца толькі 93 працэнты, бензін застаўся на ўзроўні 1995 года. Прычым трэба ўлічваць і тое, што летась забеспячэнне ім пасяўной было не лепшым. Так што агульная сітуацыя ў сельскай гаспадарцы, як лічаць у Федэрацыі прафсаюзаў, застаецца складанай, зараз ледзь-ледзь прыпыніўшы спад.

Нам, канешне, хацелася даведацца пра меркаванні наконт цяперашняй сітуацыі ў сельскай гаспадарцы прадстаўнікоў галіновага прафсаюза. Аднак з іх боку (дакладней, з вуснаў сп. Іванова) пачулі: усё вельмі дрэнна, таму няма пра што гаварыць, бо ніякай афіцыйнай рэакцыі не дачакаешся.

А мы ўвесь гэты час былі ўпэўнены, што калі разам узяцца, то ўсякую бяду адолеем...

## ПЫТАННЕ АБ ЗАПАЗЫЧАНАСЦІ ПА ЗАРАБОТНАЙ ПЛАЦЕ НАСТАЎНІКАМ ЗАСТАЕЦЦА СКЛАДАНЫМ

Сітуацыя з выплатай заработнай платы настаўнікам крыху палепшылася. Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» загадчыца аддзела сацыяльна-эканамічных інтарэсаў Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянціна Гняздзілава, усяго па рэспубліцы запазычанасць па настаўніцкаму заробку складае зараз 100 мільярдаў 500 мільёнаў рублёў (на 15 ліпеня гэта лічба складала каля 137 мільярдаў). За кошт атрыманага з дапамогай міністэрства фінансаў крэдыту ў памеры 158 мільярдаў была выплачана частка доўгу, але пагасіць яго поўнасцю ці хаця б напалову, не ўдалося. Сярод абласцей самай «неблаганадзейнай» на даны перыяд з'яўляецца Магілёўская, дзе сума запазычанасці складае 21,78 мільярда рублёў. Далей у гэтым сумным спісе ідзе Мінская вобласць — 21,68 мільярда рублёў запазычанасці і Гомельская — 20,9. На Віцебшчыне таксама не самая аптымістычная сітуацыя — 17,8 мільярда, крыху лепшая на Гродзеншчыне — 6,17 і Брэстчыне — 10,1 мільярда рублёў. Па Мінску запазычылі 2,07 мільярда. У пералічаны спіс не ўваходзяць пакуль грошы на адпачынак за жнівень тым настаўнікам, якія пачалі яго з пачатку ліпеня. Так што сённяшняя сума запазычанасці мае вялікую верагоднасць рэзкага павелічэння. Напрыканцы ліпеня Мінфін абяцаў выдзеліць чарговы крэдыт, але калі ён будзе атрыманы, дакладна невядома.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# У ПРАГНОЗАХ НА ЗІМУ КАМУНАЛЬНІКІ СПАДЗЯЮЦЦА НА ЛЕПШАЕ

***Нас усё часцей палохае, што зіма можа засцігнуць знянацку жыллёва-камунальныя службы. Страсці падаграюцца яшчэ і тым, што лішніх грошай у бюджэце няма і быць не можа. А камунальнікі, як правіла, і самі не ўпэўнены ў заўтрашнім дні.***
***Аб тым, як рыхтуюцца да зімы прадпрыемствы жыллёва-камунальнага сектара, карэспандэнт «Звязды» гутарыць з начальнікам упраўлення камунальнай гаспадаркі і экалогіі Мінжылкамунгаса Беларусі Станіславам Дзямешкевічам.***

**— Пасля прыняцця плана калегіяй Мінжылкамунгасам мінула ўжо тры месяцы. Як вы ацэньваеце прамежкавыя вынікі падрыхтоўкі?**

— Ход выканання асноўных відаў работ па замене цеплавых сетак, па рамонту катлоў і падрыхтоўцы кацельняў знаходзіцца на ўзроўні мінулага года. У цэлым па сістэме міністэрства заменена 31 км цеплавых сетак, што складае 40 працэнтаў ад агульнага аб'ёму работ. Праграма рамонту стальных катлоў вялікай магутнасці выканана на 30 працэнтаў, а прафілактычны рамонт кацельняў — на 40 працэнтаў.

На нашу думку, гэта нядрэнныя паказчыкі.

**— Ці азначае гэта, што ўсе службы Мінжылкамунгаса працуюць без перабояў?**

— На жаль, не. Далёка не ўсе прадпрыемствы нашай гаспадаркі ў рэспубліцы працуюць на поўную сілу. Нізкі працэнт выканання плана па замене цеплавых сетак назіраецца ў Брэсцкай вобласці. Там гэтыя аб'ёмы склалі 20 працэнтаў. Адстаюць Гродзенская і Віцебская вобласці — 26 і 28 працэнтаў адпаведна. Па сутнасці, толькі ў Мінску і Мінскай вобласці замена цеплавых сетак знаходзіцца на належным узроўні — 40 працэнтаў.

**— Якія тэхналагічныя навінкі ёсць у нашых камунальнікаў, якія б дазволілі здабываць цяпло з найменшымі затратамі?**

— Міністэрствам падрыхтавана праграма па замене чыгунных катлоў на больш эфектыўныя, з высокім каэфіцыентам карыснага дзеяння. У гэтым годзе замены патрабуюць 500 чыгунных катлоў. Для гэтых мэт урад выдзеліў нашаму міністэрству 60 млрд. рублёў, што недастаткова для выканання праграмы ў поўным аб'ёме. Выдзеленыя сродкі дадуць магчымасць замяніць толькі палавіну ўстарэлых катлоў, акрамя таго, некаторыя выканкомы блакіруюць выдачу ўжо запланаваных сродкаў непасрэдна прадпрыемствам камунальнай гаспадаркі. Разам з тым, замена старых катлоў на новыя прынясе важкую эканомію сродкаў менавіта мясцовым бюджэтам.

**— Калі ў рэспубліцы будзе ўведзена ў строй сістэма прыборнага ўліку спажывання цяпла і вады?**

— Устаноўка прыбораў уліку і рэгулявання цеплаэнергіі ў першую чаргу праводзіцца ў цэнтральных цеплавых пунктах і вузлах жылых дамоў. Гэта мера павінна прывесці да больш эканомнага расходавання насельніцтвам цяпла і вады. Вопыт з прамысловымі прадпрыемствамі даказвае высокую эфектыўнасць гэтага новаўвядзення. Да таго ж, людзі будуць плаціць за рэальны пералік паслуг (энергію можна падлічыць, а паслугі — ацаніць). Цяпер жа жыльцы дамоў плацяць за цеплаэнергію ніжэй яе сабекошту. Так, у мінулым годзе 1 гігакалорыя цяпла каштавала гаспадаркам 180—200 тысяч рублёў, а насельніцтва разлічвалася за яе па цане, роўнай 58 тыс. рублёў за адзінку. Рана ці позна за энерганосьбіты трэба будзе плаціць у поўным аб'ёме. У гэтым выпадку ўлік цеплаэнергіі проста неабходны. Таму ўрад рэспублікі і вырашыў накіраваць частку інвестыцыйнага фонду Міністэрства паліва і энергетыкі (116,4 млрд. рублёў) для абсталявання жылля прыборамі, уліку паліва і вады. Мы спадзяёмся, што Мінпаліўэнерга пойдзе нам насустрач і ўжо ў бліжэйшы час указаная сума будзе выдзелена прадпрыемствам Мінжылкамунгаса.

**— Не сакрэт, што асноўныя запасы паліва фарміруюцца да пачатку ацяпляльнага сезона. І нават нязначныя памылкі ў разліках могуць істотна знізіць тэмпературу ў нашых дамах. Наколькі паспяхова праводзяць нарыхтоўку паліва арганізацыі Мінжылкамунгаса?**

— У гэтым сезоне назіраецца адчувальнае адставанне тэмпаў нарыхтоўкі паліва ў параўнанні з мінулым годам. Па стварэнню запасаў паліўнага мазуту заданне выканана толькі на 20 працэнтаў, па пячному, бытавому паліву — на 15 працэнтаў, па каменнаму вугалю — на 42 працэнты. Выдзеленая ўрадам бюджэтная пазыка ў памеры 60 млрд. рублёў у асноўным была накіравана на набыццё паліўнага мазуту. Але нават з улікам пазыкі мы можам папоўніць свае запасы толькі на 53 працэнты. Такое становішча спраў вымушае нас звярнуцца да ўрада з просьбай паўторнага выдзялення сродкаў для закупкі паліва на зіму ў поўным аб'ёме. Да таго ж, летняя цана энерганосьбітаў па вопыту мінулых гадоў значна ніжэйшая, чым у зімовы перыяд. Разумеючы актуальнасць закупкі таннага паліва летам, аблвыканкомы і выканкомы мясцовых Саветаў павінны максімальна прыцягваць сродкі для яго нарыхтоўкі.

**— Як часта вы вырашаеце пытанні цеплазабеспячэння з дапамогай альтэрнатыўнага паліва?**

— Прамысловасцю краіны выпускаецца абсталяванне кацельняў, якія працуюць на адходах драўніны, торфабрыкетах і іншых разнавіднасцях мясцовага паліва. Найбольшую падтрымку гэты напрамак атрымаў на прадпрыемствах жыллёва-камунальнай гаспадаркі Віцебскай і Гомельскай абласцей. Гродзенская і Мінская абласныя гаспадаркі, наадварот, неахвотна ідуць на вырашэнне гэтых пытанняў. У той жа час гэта вобласці з самым высокім каэфіцыентам спажывання прыроднага газу. Многія раёны, маючы велізарныя запазычанасці за газ, працягваюць выкарыстоўваць яго амаль ва ўсіх кацельнях, рашуча адмаўляючыся выкарыстоўваць для гэтых мэт мясцовае паліва. Разам з тым найбольш малааб'ёмныя кацельні могуць працаваць на альтэрнатыўным паліве. Разлікі паказваюць, што яно значна таннейшае за дэфіцытныя энерганосьбіты з Расіі. Замена такіх дарагіх, як салярка і газ, на мясцовыя віды паліва дасць магчымасць значна скараціць расходы на цяпло малых і сярэдніх прадпрыемстваў. Напрыклад, Слонімская мэблевая фабрыка перайшла з паліўнага мазуту і прыроднага газу на спальванне ўласных адходаў. У выніку ацяпленне фабрыкі было арганізавана з найменшымі затратамі. Найбольш актыўна падхапілі пачын прадпрыемствы Віцебскай вобласці. Мінжылкамгас настойліва прапануе ўкараняць гэты вопыт на малых прадпрыемствах краіны.

**Гутарыў Сяргей КУРКАЧ.**

# ТЭМПЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ ТАРМОЗЯЦЦА НА МЕСЦАХ

***Паводле даных Міндзяржмаёмасці, за першае паўгоддзе ў рэспубліцы рэфаміравана з пачатку прыватызацыі толькі 1684 прадпрыемствы. З іх прыватызавана 1256 аб'ектаў камунальнай і 428 — рэспубліканскай уласнасці. Асноўным спосабам рэфарміравання дзяржуласнасці сталі аўкцыённыя і конкурсныя таргі, а таксама выкуп прадпрыемстваў працоўнымі калектывамі.***

У выніку гэтых працэсаў змяніў форму ўласнасці 1121 аб'ект народнай гаспадаркі. За мінулы перыяд 563 арганізацыі былі пераўтвораны ў акцыянерныя таварыствы. Усяго ў недзяржаўным сектары эканомікі працуюць звыш 420 тысяч чалавек. У той жа час Міністэрствам статыстыкі і аналізу адзначаецца пастаянны рост удзельнай вагі прыватнікаў у агульным патэнцыяле краіны. Калі ў 1994 годзе ў прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці гэты паказчык быў роўны 21 працэнту, у 1995-м — 26,7 працэнта, то за І паўгоддзе гэтага года ён вырас да 29,5 працэнта ад агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі ў рэспубліцы.

Аднак, на думку намесніка міністра па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі Васіля Давыдзенкі, работнікі ўпраўленняў гандлю і кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў грамадскага харчавання тармозяць працэс рэфарміравання. Як правіла, на продаж выстаўляюцца нерэнтабельныя аб'екты, на якія навешваюцца страты ледзь не ўсіх дзяржаўных магазінаў у рэгіёне. Гэта адбываецца з-за адсутнасці ў іх статусу юрыдычнай асобы і, адпаведна, гаспадарчай самастойнасці.

Са слоў намесніка міністра, яшчэ ніжэйшыя тэмпы прыватызацыі ў вядучых галінах эканомікі — прамысловасці, будаўніцтве і транспартным комплексе. Гэта тлумачыцца тым, што прыватызацыі шэрага буйных і сярэдніх прадпрыемстваў гэтых галін павінна папярэднічаць працяглая падрыхтоўчая работа па іх рэструктурызацыі і санацыі, а гэта патрабуе значных фінансавых укладанняў, у тым ліку і з боку дзяржавы.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ГРОШЫ*

# НАКОЛЬКІ ЗАРОБАК НАМ ЖЫЦЬ ДАПАМАГАЕ?

Не сакрэт, што, трапіўшы некуды за межы краіны або прымаючы ў сябе сваякоў ці сяброў з рэспублік некалі адзінага Саюза, мы найчасцей перш-наперш высвятляем: а як жывуць людзі тут? Колькі атрымліваюць, ці хапае на жыццё? Напэўна, гэта не ад зайздрасці, а ад спрадвечнага імкнення знайсці адказ на пытанне: ці ёсць такая краіна, дзе жыць лёгка і добра? Гаворка, зазначым, зусім не аб «лёгкіх» грашах. У цывілізаваных краінах па заробку прынята меркаваць наколькі чалавек рэалізуе сябе як спецыяліст і наколькі дзяржава цэніць яго ўклад у агульную «скарбонку». Прапаноўваем чытачам параўнальную інфармацыю аб мінімальным і сярэднім заробку за чэрвень месяц у Беларусі, Расіі, Украіне, Літве. Думайце, рабіце высновы самі...

## ЗАРОБАК У БЕЛАРУСІ І ІНШЫХ РЭГІЁНАХ СНД

| | У нац. валюце | У доларах ЗША | У рублях РФ | У разлік. білетах РБ |
|---|---|---|---|---|
| **Мінімальная зарплата** | | | | |
| Беларусь | 100.000 | 7.43 | 38.911 | 100.000 |
| Расія | 75.900 | 14.65 | 75.900 | 227.246 |
| Украіна | 1.500.000 | 8.43 | 43.479 | 113.407 |
| Літва | 210.00 | 52.50 | 262.500 | 700.000 |
| **Сярэдн. зарплата за мінулы мес.** | | | | |
| Беларусь | 1.272.000 | 94.57 | 494.492 | 1.272.000 |
| Расія | 866.000 | 167.12 | 866.000 | 2.592.815 |
| Украіна | 13.774.000 | 77.43 | 399.247 | 1.041.371 |
| Літва | 490.74 | 122.69 | 613.425 | 1.635.800 |

**Падрыхтаваў Сяргей РАСОЛЬКА.**

*НЯВЫДУМАНЫЯ ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСКАЙ ГЛЫБІНКІ*

# З ДАРОГ ГЛЫБОЧЧЫНЫ

***Так атрымалася, што за апошнія месяцы шмат разоў бываў на Глыбоччыне. Прыводзілі сюды, як кажуць, вялікія і сур'ёзныя тэмы. Але разам з тым у журналісцкі блакнот трапляе і нешта невялікае, нібыта нязначнае. І асядае гэта ў памяці. Таму і вяртаешся праз нейкі час да паспешлівага запісу.***

## ЗАБЫТАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

У Лаўрынаўскім лесе, некалькі кіламетраў ад Глыбокага, ёсць абеліск — помнік спаленым вёскам. Паўстаў ён тут дзесяць гадоў назад па ініцыятыве тагачаснай камсамоліі раёна. Добрая была ініцыятыва: ушанаваць памяць цэлых вёсак, якія сцёрла з твару зямлі вайна. А такіх на Глыбоччыне васемнаццаць.

Каб не мясцовы гід, я б яго і не прыкмеціў. Помнік наўзбоч шашы ў нізіне, захінуты дрэвамі. Вядзе да яго алея з экзатычных для Беларусі дрэўцаў. Але дапушчаны пралік. Алея занадта вузкая, і дрэўцы падраслі настолькі, што ствараюць цёмны калідор, да таго ж у нізіну.

Але гэта аказалася не галоўным пралікам тых, хто праявіў ініцыятыву па стварэнню помніка. Не ў тым месцы ён узведзены. Поўнасцю забыты, бачна, што тут ніхто не пабываў нават у прайшоўшыя святы, звязаныя з нашым вызваленнем. Помнік у вельмі і вельмі недагледжаным стане. Не хочацца ўсё пералічваць. Дастаткова сказаць, што з чатырох радкоў верша-рэквіема адзін адваліўся ды так і ляжыць пад абеліскам.

Камсамоліі няма. Хто цяпер возьме над помнікам шэфства, хто хоць раз на год прынясе сюды кветкі? А ўвогуле падумалася: людзі нашы спакон веку ходзяць у храм і да тых капцоў, дзе ляжыць прах родных і блізкіх людзей. А вось спробы стварэння новых храмаў ідэалагічнага кшталту, як правіла, атрымліваюцца няўдалымі.

## ПАГАВАРЫЛІ

На прыбітай дажджом вясковай гравійцы сустракаюцца двое. Старшыня гаспадаркі на калгасным «УАЗіку» кіруецца з райцэнтра ў сваю вёску, галоўны аграном гэтага ж калгаса на сваёй «іншамарцы», наадварот, з вёскі едзе ў райцэнтр. Старшыня махнуў рукой — прыпыніліся. Выйшлі з машын. Нейкую хвілю памаўчалі.

— Ну, і куды ж ты, Антонавіч, ізноў? У райцэнтр?

— Васільевіч, разумееш, трэба тэрмінова ва ўпраўленне, выклікалі.

— Хто цябе выклікаў? Зноў да сваёй крамы едзеш. А ў полі ты сёння хоць ці быў?

— Быў, абскочыў.

— Можа і «абскочыў», а можа і зусім не быў, не веру я ўжо табе, зусім не веру. І трэба нам, відаць, разыходзіцца пакуль яшчэ па-добраму.

Аграном становіцца сур'ёзным:

— Так, ну дык і давайце, я прасіцца не буду. Ну што мне вашыя васемсот тысяч у месяц? Ды ў мяне, бывае, за дзень больш мільёна выходзіць.

— Па-першае, не вашы, а калгасныя. Людзі ў нас, якія ўвесь дзень на трактары, і то менш атрымліваюць. А па-другое, вось як ты павярнуў. А даміну ў райцэнтры будаваў — калгас табе патрэбен быў. І цагліну якую, і грузавік бясплатна. Ды ты напалову дом за кошт калгаса адляпаў.

— Вы мне бяздоказна не тыкайце. Дзе доказы? Ваш дамок таксама немалы і таксама за кошт калгаса.

— Дык я ж лямку дзесяць гадоў цягну і крамаў у райцэнтры не адчыняю.

— Ну і дарма.

— Ды ідзі ты...

Пагаварылі.

## ТОЙ ЯШЧЭ КОНЬ

Старшыня калгаса імя Кірава Мікалай Германовіч захапляецца развядзеннем коней. Справа гэта для гаспадаркі не самая галоўная, хаця нейкі прыбытак і дае. А галоўнае ж, сёння на каня ў вёсцы вялікі попыт. Прыдбаць добрага каня жадаюць многія. А што можна «адарваць» на кірмашы ці ў цыганоў, вядома.

Тут жа сваёй гадоўлі, па правілах навукі. Прадаваліся коні сваім калгаснікам. Цяпер справа пакрыху згортваецца. Але статак унушальны, і старшыня захацеў паказаць карэспандэнту сваіх прыгажуноў.

Калі пад'язджалі да агароджанай пашы на няўдобіцы, дзе пасвіўся статак, старшыня звярнуў увагу на прыгажунака́ня незвычайнай афарбоўкі — «у яблыкі».

— Ну як?

— Цудоўны.

— А які хітры! Калі нікога няма, пераскоквае агароджу і ласуецца на суседнім полі. Але варта толькі здалёк паказацца машыне, ён тут жа вяртаецца назад і пасвіцца разам з усімі, як нічога не бывала.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ПАЎЛІТРА СМЯТАНЫ?

Справа гэта пачалася ў мінулым годзе. Алена Аляксандраўна Шчэбет, работніца Глыбоцкага «Рамонтніка» купіла ў краме мясцовага райспажыўсаюза паўлітра смятаны. І няякасным аказаўся прадукт, вельмі няякасным. Што рабіў у такім выпадку савецкі грамадзянін? Ну, гаварыў некалькі «прыемных» слоў прадаўцу, да начальства мог звярнуцца, ну, у газету напісаць.

Але мы ўжо не зусім савецкія. І таму Шчэбет падае ў народны суд іск на райспажыўсаюз за нанесены маральны ўрон. Патрабавала яна кампенсацыі ў памеры сямідзесяці мільёнаў рублёў. І суд, разгледзеўшы справу стаў на бок пакупніка. Пяць мільёнаў Алена Аляксандраўна атрымала.

Выпадак для нашай рэчаіснасці яшчэ рэдкі. Але справа мела працяг. Ужо ў гэтым годзе кіраўніцтву райспажыўсаюза, відаць, шкада стала пяці мільёнаў. Адным словам, раённы суд у новым саставе перагледзеў справу. І вырашыў, што пяці мільёнаў за паўлітра смятаны многавата. Пакінуў толькі 200 тысяч. Абласны суд згадзіўся з рашэннем раённага. Такім чынам на Алену Аляксандраўну прыйшоў выканаўчы ліст. Трэба вярнуць 4 мільёны 800 тысяч.

Але жанчына не здаецца.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ*

## КРАЛІ ЗБОЖЖА

Толькі на Гомельшчыне пачалася ўборка збожжавых, як з'явілася шмат ласых на калектыўнае дабро. Так, калгаснік калгаса «Кастрычнік» Жыткавіцкага раёна, раней судзімы А.Ч., сярод белага дня зайшоў у збожжасклад і пачаў гаспадарыць там, нібы ў сябе дома. А менавіта: насыпаў у мяшок жыта, узваліў яго на плечы і пашыбаваў дадому.

А ў саўгасе «Сож» Чачэрскага раёна трое жыхароў вёскі Валосавічы пад кіраўніцтвам рабочага гаспадаркі В.Л. ноччу з ахоўваемага склада ўкралі два цэнтнеры збожжа. Вартаўніка, як гэта часта здараецца, на месцы не было. Добра, што на вышыні аказаліся работнікі міліцыі.

## ЦЯЖКА, АЛЕ БУДУЕМ. ЗА МЯЖОЙ...

З-за дзіравых фінансавых кішэняў прадпрыемстваў і горада ў цэлым гомельскія будаўнікі катастрафічна скарацілі аб'ёмы сваіх работ у абласным цэнтры і рушылі шукаць шчасця там, дзе ім заплацяць і дзе ў іх паслугах маюць патрэбу. У асноўным гэта Расія, дзе, дарэчы, з-за падобнага становішча ўзнікла жорсткая канкурэнцыя сярод падрадных арганізацый.

І прыемна, што ў гэтай канкурэнцыі гомельскія будаўнікі выглядаюць дастойна. Так, вытворча-будаўнічы кааператыў «Трэст №14» трывала абгрунтаваўся ў Маскве, Мыцішчах і Санкт-Пецярбургу, перамогшы шэсць сваіх канкурэнтаў для работ там, а будаўніча-мантажны трэст № 27 выйграў тэндэрныя таргі на ўзвядзенне шэрага аб'ектаў у Ноўгарадзе. Яго канкурэнтамі з'яўляліся фірмы і трэсты дванаццаці краін, у тым ліку Фінляндыі, Турцыі, Расіі і Германіі.

Работа за межамі рэспублікі дазваляе гомельскім будаўнікам карміць свае сем'і.

## НІБЫ СЕЛЯДЦОЎ У БОЧЦЫ

На маршрутах Гомеля сёння задзейнічана звыш двухсот тралейбусаў, каля сарака з якіх трэба спісваць і каля трыццаці адпраўляць у капітальны рамонт. Таму на лініях вялікія чэргі людзей, асабліва ў гадзіны «пік», цесната ў тралейбусах. Чакаецца, што да канца года сітуацыя можа яшчэ больш ускладніцца, бо завершыцца амартызацыйны тэрмін яшчэ некалькіх дзесяткаў машын, у той час як зараз у горад паступіла дзевяць новых тралейбусаў і чакаецца яшчэ дзевятнаццаць.

І тым не меней — прыемная навіна. Прадпрыемства «Гарэлектратранспарт» з 25 ліпеня пачало ажыццяўляць начную работу тралейбусаў з адной да шасці гадзін па чатырох найбольш загружаных і аддаленых маршрутах. Рэйсы гэтыя, вядома ж, камерцыйныя, але плаціць за дастаўку ў патрэбнае месца людзям давядзецца куды менш, чым на таксі.

## ЭХ, САД-ВІНАГРАД. ДЫ ЯШЧЭ Ў ЗОНЕ...

Дванаццаць сартоў вінаграду, васемнаццаць — абрыкосаў і дваццаць — персікаў вырошчваюць вучоныя і спецыялісты Палескага радыяцыйна-экалагічнага заказніка. Сад гэтых паўднёвых культур (дарэчы, адзіны ў краіне) знаходзіцца ў выселенай вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна. Абрыкосы і персікі паспелі ўжо і маюць смак не горшы, чым, скажам, крымскія. Навуковыя эксперыменты працягваюцца і маюць сваёй мэтай вызначыць магчымасць пасадкі ўказаных культур на тэрыторыі Гомельскай і Брэсцкай абласцей. Першыя вынікі, здаецца, абнадзейваюць.

## СПУСЦІЛІ СУДНА НА ВАДУ І ПУСЦІЛІ СЛЁЗЫ. ГОРКІЯ

Заканчэнне карабеламі шматмесячнай работы па будаўніцтву судна заўсёды завяршаецца спускам яго на ваду. І падзея гэта — радасная, хвалюючая, з традыцыйным разбіваннем бутэлькі шампанскага аб борт. А ў калектыву Рэчыцкага суднабудаўніча-суднарамонтнага завода гэты момант, хоць ты трэсні, атрымліваецца не столькі радасны, колькі тужлівы. Са слязамі на вачах. Горкімі слязамі. Чаму?

Сёлета ў маі мы расказвалі аб вытворчай драме гэтага прадпрыемства. Працуючы ўвесь час прыбыткова, яно з 1991 года атрымала ўсяго адзін заказ ад дзяржавы, і то кароткатэрміновы. Каб не пайсці на дно, нібы той «Вараг», калектыў ухапіўся за саломінку з мэтай выплыць, уратавацца. А менавіта: пачаў шукаць партнёра ў далёкім замежжы. «Канат» дапамогі яму кінула вялікая марская дзяржава — Галандыя, якая, ведаючы аб высокім прафесіянальным майстэрстве беларускіх суднабудаўнікоў, заказала ім некалькі пантонаў. Калі яны былі прыняты, рэчычанам было прапанавана вырабіць для Галандыі чатыры корпусы сухагрузаў тыпу «рака—мора» даўжынёй 82, вышынёй — 9 метраў і грузападымальнасцю 1700 тон.

Летась у пачатку лістапада са стапеляў завода быў спушчаны на ваду першы сухагруз, на чым калектыў прадпрыемства замест прыбытку панёс страты ў 1400 мільёнаў рублёў. І вось на мінулым тыдні зноў была разбіта бутэлька шампанскага аб борт другога судна, якое па Дняпры адправілася ў далёкую краіну.

— Няўжо згубілі і на гэты раз? — спытаў я ў намесніка дырэктара завода Гарбачова.

— Згубілі. І многа, — голас Сяргея Аляксандравіча дрыжэў. — Нікому мы не патрэбны...

Дык што ж атрымліваецца? Калектыў, працуючы да сёмага поту, нясе страты, праядае раней зробленае, улазіць у даўгі за свае добрыя справы. Чаму? Прычынай стала тое, што суднабудаўнікі на выкананне заказу галандцаў, як і мае быць, узялі ў банку крэдыты, працэнтныя стаўкі на якія ў 1994 годзе падскочылі ледзь не да неба. Разлічыцца цяпер за іх суднабудаўнікі не ў стане. І можна сказаць, што дзяржава павесіла на іхнюю шыю якар і звязала рукі, бо не дае ім заказы і не дапамагае перапрафіляваца. Калектыў завода не ў прыклад экіпажу «Варага», які перад смерцю грымнуў непераможнай песняй, зараз выцірае горкія слёзы, рыхтуючыся пайсці на дно (збанкрутаваць) ці павесіць на сябе жабрацкую торбу. Калі, вядома, зноў той «канат» не кіне на падмогу Галандыя. Фірма «Damen Shipyards Bergum» абяцае на будаўніцтва двух астатніх суднаў выдаць свой аванс, каб рэчычане не бралі банкаўскіх крэдытаў у роднай дзяржавы. Надзея памірае апошняй.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

*КРЫМІНАЛ*

# А МІЛІЦЫІ — ЛАВІ!

**Крымінагенная абстаноўка ў сталіцы нашай рэспублікі, мякка кажучы, вымушае жадаць лепшага: нарастае хваля злачыннасці, а сама яна становіцца больш арганізаванай і небяспечнай. Толькі за першае паўгоддзе гэтага года ўчынена 11.371 злачынства — на 0,7 працэнта больш, чым за адпаведны перыяд летась. У асобных жа раёнах Мінска злачынныя праявы растуць яшчэ больш шпаркімі тэмпамі. Для прыкладу, у Савецкім раёне за паўгода зарэгістраваны 1542 злачынствы — рост на 12 працэнтаў. І добрая трэць іх звязана з крадзяжом маёмасці.**

На працягу апошніх месяцаў Савецкі раён сталіцы, што называецца, даймалі крадзяжы аўтамашын. І не толькі позняй ноччу, калі ліхадзеі па сутнасці гаспадарылі ў дварах і на праезных частках вуліц, дзе разукамплектоўвалі пакінутыя гаспадарамі транспартныя сродкі, але нярэдка рабілі сваю чорную справу і сярод белага дня. І — з канцамі. Як правіла, знайсці ўкрадзеныя легкавікі — справа амаль безнадзейная, бо арудуюць там у асноўным прафесіяналы. А яны ведаюць, што робяць: у пэўных месцах гаражы, дзе перабіваюцца нумары на кузавах і рухавіках, а нярэдка і наогул разукамплектоўваюць тыя аўтамабілі на запчасткі.

Нарэшце, што называецца, цярпенне лопнула. У Савецкім райаддзеле ўнутраных спраў распрацавалі мерапрыемствы па барацьбе з угонам аўтамабільнага транспарту. Было вырашана правесці спецыяльны рэйд па праверцы правілаў захоўвання аўтатранспартных сродкаў, а заадно і агледзець прыватныя гаражы ў так званым сельгаспасёлку, дзе, паводле папярэдніх сігналаў, знікалі крадзеныя машыны. І сапраўды, пасля ўдала праведзенай аперацыі ў прыватных гаражах былі выяўлены ажно тры аўтамашыны, якія лічыліся ўгнанымі. Па дадзеных фактах узбуджана крымінальная справа. Цяпер, калі за некалькі хвілін можа быць уведзена ў дзеянне аперацыя «Перахват», якая накрывае не толькі горад, але і прылеглыя раёны, а нумары ўкрадзеных машын і іх дэталяў заносяцца ў памяць камп'ютэраў, зладзеям становіцца ўсё цяжэй.

Гэтыя і іншыя факты мы папрасілі пракаменціраваць кіраўніцтва Савецкага РАУС г. Мінска,

**Мікалай КАНАКОРАЎ, начальнік райаддзела:** — Вядома, любая ўдала праведзеная аперацыя па абясшкоджванню і затрыманню злачынцаў, у тым ліку і ўжо памянёная вышэй справа з крадзяжамі аўтамашын, выклікае законнае пачуццё задавальнення і нават гордасць. Значыць, не дарэмна займаем свае месцы, спраўна выконваем прафесіянальны абавязак. Аднак разам з тым падспудна ўзнікае крамольная думка: а ці ўсё ў нас зроблена для папярэджання злачынстваў? Няхай даруюць мне суайчыннікі, але многія з іх дзейнічаюць бы тыя неразумныя дзеці: занадта бесклапотна ставяцца да захавання свайго дабра. А нажытае дастаецца для большасці няпроста: па капейцы, потам здабываецца дабро, у тым ліку і той жа аўтамабіль. Здаецца, калі ўжо раз набыў яго, то і беражы як зрэнку вока. Дзе там! Кідаюць тыя машыны дзе папала: на вуліцах, у дварах дамоў, нярэдка нават забываюць прымкнуць дзверцы. Слоў няма, розныя мудрагелістыя прыстасаванні па барацьбе з аўтаўгоншчыкамі каштуюць нямала. Але намнога меней за сам аўтамабіль. Калі ўжо наскроб грошай на «колы», то, будзь ласкавы, паклапаціся, каб іх не ўганялі: прыдбай адпаведную сігналізацыю, спецыяльныя процьугонныя прыстасаванні...

Няхватка гаражоў — найвастрэйшая праблема. Але гэта не значыць, што трэба кідаць аўтамашыну на вуліцы ці ў двары, бо жадаючых угнаць лёгкую здабычу хоць адбаўляй. Толькі дзіву даешся той бестурботнасці, што пануе сярод многіх аўтааматараў. Неяк да універсама «Рыга» падкаціў шыкоўны «Мерсэдэс». Яго гаспадар разам з дамай пайшлі ў магазін, каб купіць бутэльку шампанскага. У салоне машыны неабдумана пакінулі сумку, а ў ёй 12 тысяч долараў. Выйшлі з пакупкамі, а машыны — і след прастыў. Потым няўдалы гаспадар яе з роспачу расказваў, што побач з сабою бачыў некалькіх хлопцаў з двума легкавікамі, дарэчы, з літоўскімі нумарамі. Але не прыдаў гэтаму значэння. Шкада, бо, хутчэй за ўсё, гэта іх рук справа. Крыўдна ўдвая: гаспадар жа ў свой час працаваў у органах, павінен разбірацца, што да чаго.

Або ўзяць другі выпадак. Не так даўно ў райаддзел звярнуўся разгублены жыхар Гродна, у якога ў сталіцы таксама ўкралі аўтамабіль. Аказваецца, яшчэ на пад'ездзе да Мінска бачыў «на хвасце» нейкую падазроную машыну. І гэты не прыдаў значэння, зайшоў на хвіліну ў краму, каб нешта купіць. Вярнуўся — машыны няма. Каго вінаваціць ў падобнай сітуацыі? Зладзеяў? Яны, вядома, вінаватыя. Але ж і пацярпеўшыя даюць маху, самі, што называецца, правакуюць злачынцаў на крадзяжы. А міліцыя — лаві, шукай потым тых зладзеяў!

Вельмі непакояць нас кватэрныя крадзяжы. І зноў нярэдка гэта звязана з нядбаласцю саміх жа гаспадароў. У многіх кватэрах замкі ледзь не з таго часу, як іх там паставілі будаўнікі, не тое што адмычкай — звычайным цвіком лёгка адамкнуць. Здараецца, на ўсю сям'ю адзін ключ, і яго кладуць пад дыванок ля ўваходных дзвярэй, ці ў паштовую скрынку, ды яшчэ і ў запісцы пра гэта папярэдзяць. Пра самі дзверы і казаць няма чаго: добра націсні плячамі — і яны вываляцца. Ну хто, скажыце, павінен клапаціцца пра ўмацаванне тых дзвярэй, устаноўку замкоў з сакрэтамі, здачу кватэр пад сігналізацыю? Вядома, самі гаспадары. Аднак яны не надта спяшаюцца гэта рабіць, маўляў, дарага. І толькі калі вычысцяць усё да ніткі, хапаюцца за галаву, звяртаюцца ў міліцыю. Але ж пра гэта раней трэба было дбаць. Ля кожнай кватэры, гаража, аўтамашыны міліцыянера не паставіш.

**Пётр КРЫЧКО, намеснік начальніка райаддзела па прафілактычнай рабоце:** — Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі, а то і проста на слупах можна прачытаць аб'яву: «Здаём кватэру, пакой...» Вядома, не ад добрага жыцця здаюць людзі жылплошчу: калі нерэгулярна выплачваюць зарплату ці ўвогуле застаешся без работы, кожная капейка на ўліку. Больш таго, нярэдка пакідаюць жыллё на сваіх часовых кватарантаў, а самі ад'язджаюць на пэўны час па нейкіх справах. Вяртаюцца дадому — ні гасцей, ні дабра. Кідаюцца ў міліцыю: «Дапамажыце, калі ласка!» Толькі каго і дзе лавіць, калі нават прозвішча не ведаюць? Даверлівыя, сарамлівыя сталі, нават пашпарта папярэдне не патрабуюць. А ёсць жа правіла наконт прыезджых, існуе так званая часовая прапіска. Неяк сярод ночы зазвінеў у міліцыі тэлефонны званок. Невядомы паведаміў, што некалькі чалавек з дома па вуліцы Мірашнічэнкі грузяць у машыну дываны. Выехалі на месца, праверылі. Аказваецца, кватаранты спрабавалі такім чынам «аддзячыць» гасцінным гаспадарам.

Сапраўднай крымінагеннай зонай стаў для раёна і ў цэлым для сталіцы Камароўскі рынак — буйнейшы ў Еўропе. У выхадныя дні тут праходзіць да мільёна чалавек. Аўтамабілямі забіты ўсе вуліцы, а платных стаянак не хапае. На добры толк, каб навесці там хоць нейкі парадак, трэба мець як мінімум спецыяльнае аддзяленне міліцыі. Тут аж кішаць розныя прайдзісветы: махляры, валютчыкі, рэкецiры, кішэнныя зладзеі... Вельмі даймаюць і гастралёры з поўдня, якія, што называецца, акупіравалі Мінск. Дарэчы, прыязджаюць яны сюды далёка не з самымі лепшымі намерамі, часцяком выступаюць у ролі перакупшчыкаў, калі не горш. І калі ў сталіцы рэспублікі дзейнічаюць хоць нейкія абмежаванні ў адносінах да іх, то ў бліжэйшых гарадах ім увогуле «лафа»: прыезджых ахвотна прапісваюць, прымаюць на кватэры, а яны потым наязджаюць у Мінск рабіць свой «бізнес». У Літве і наогул у краінах Прыбалтыкі дзейнічае візавы рэжым, і там намнога цішэй у гэтых адносінах. У нас жа прыезджыя даюць ад 20 да 30 працэнтаў розных правапарушэнняў. Рэспубліка стала своеасаблівым прахадным дваром. Або яшчэ праблема. Дапусцім, затрымалі парушальніка. А што з ім далей рабіць? Ён жа падданы іншай дзяржавы. Даводзіцца абмяжоўвацца адміністрацыйным спагнаннем, бо да гэтага часу не прыняты Закон аб дэпартацыі. Словам, куды ні кінь...

Каментарыі кіраўнікоў Савецкага РАУС, як бачна, асаблівага аптымізму не выклікаюць. Вядома, людзі працуюць — днём і ноччу змагаюцца з рознай нечысцю, што перашкаджае жыць і працаваць. Толькі не ўсё і ад іх залежыць. Да гэтага часу ў нетрах Вярхоўнага Савета пыляцца праекты законаў аб карупцыі, барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, новыя Крымінальны і Крымінальна-працэсуальны кодэксы. А гэтыя ж дакументы для праваахоўных органаў патрэбны як паветра!

Крадуць, як правіла, там, дзе кепска ляжыць. А мы забываем гэтую народную мудрасць, часцяком спадзяёмся «на авось». А раптам — пранясе, Бог памілуе. Толькі бесклапотнасць дорага каштуе. Зноў жа, як справядліва зазначыў начальнік райаддзела ўнутраных спраў : на ўсіх грамадзян проста не хопіць. Штокольвечы трэба рабіць і самім — усім разам і кожнаму паасобку.

**Уладзімір ГОЙТАН.**

*НАПЯРЭДАДНІ*

# ШКОЛЫ РЫХТУЮЦЦА ДА ВОСЕНІ. АЛЕ З ЦЯЖКАСЦЯМІ

***Папулярны яшчэ ў недалёкія часы лозунг абвяшчаў, усё лепшае — дзецям. Таму сітуацыя з будаўніцтвам новых і рамонтам ужо існуючых школ прыцягвала ўвагу заўсёды. Напярэдадні новага навучальнага года — тым больш. Што чакае нашых школьнікаў сёлета? — з такім пытаннем карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Мікалая Сцяпанавіча Фяськова.***

— У мінулым навучальным годзе на Беларусі працавала 4808 школ, у якіх вучылася больш за 1 мільён 538 тысяч вучняў. Паводле папярэдніх даных, сёлета колькасць школьнікаў у краіне павінна павялічыцца. Таму планавалася, што да 1 верасня ў нас адчыняцца 56 новых школ. На жаль, па вядомых прычынах, упэўненасці, што гэта абавязкова адбудзецца, асабіста ў мяне пакуль няма.

**— Атрымліваецца, што ў наступным навучальным годзе колькасць школ, у якіх займаюцца ў дзве і нават у тры змены, павялічыцца?**

— Сапраўды, шмат нашых школ перагружана, асабліва ў новых мікрараёнах буйных гарадоў. Летась, напрыклад, у адну змену займаліся крыху больш за 70 працэнтаў школ, амаль 28 працэнтаў у дзве, а астатнія школы — нават у тры змены. Нельга сказаць, што сёлета гэтыя суадносіны значна пагоршацца. Аднак разам з тым весці гаворку аб нейкіх станоўчых зрухах у даным выпадку таксама не выпадае.

**— Яшчэ адна няпростая праблема: рамонты. Як з імі?**

— У адпаведнасці з законам аб мясцовым самакіраванні рамонты школ павінны фінансавацца з мясцовых бюджэтаў. Зразумела, сродкі выдаткоўваюцца з цяжкасцямі. Да таго ж, застаецца ўсё менш прадпрыемстваў і арганізацый, здольных, як раней, узяць на сябе гэтую праблему. Але нягледзячы ні на што, у большасці рэгіёнаў да школ ставяцца з увагай: грошы, хаця б на касметычны рамонт, знаходзяцца.

**Сяргей ГРЫБ.**

